

# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.*

№ 46 (127). 11 — 17 лістапада 1999г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 40.000 руб.


# ПРОДОВОЛЬСТВИЯ БОЛЬШЕ НА БУМАГЕ

**Нынешней осенью население Беларуси живет в большой тревоге. Всех волнует, хватит ли на предстоящую и уже близкую зиму тепла и продовольствия.**



Фота Віталя ГІЛЯ

При этом особой заботой населения является продовольственная безопасность. Пожалуй, в каждой семье озабочены, прежде всего, состоянием продовольственного рынка – если уже сегодня многие виды продуктов в дефиците, если безудержно растут цены, то что же будет завтра? Чтобы успокоить население, Александр Лукашенко не жалеет слов: дескать, будет нелегко, но перезимуем. Как-будто после зимы сразу все пойдет как по маслу. А.Лукашенко обещал закупить продукты за границей. Но даже если на эти цели найдутся деньги, народу придется недоедать.

Козырной картой в успокоении населения являются заверения по телевидению и радио, а также в газетах. Вице-премьер, который курирует аграрный сектор, в частности, заявил: "...наличных ресурсов продовольствия достаточно для того, чтобы удовлетворить покупательский спрос".

В этом заявлении есть один интересный момент. Один из руководителей правительства говорит не об удовлетворении потребностей в продовольствии, а об удовлетворении спроса. Но спрос, как известно, легко ограничить ценой, что и происходит сегодня через гиперинфляцию.

Однако любопытно, на чем основывается уверенность в том, что будет обеспечено покрытие спроса? За девять месяцев текущего года спад производства молока и мяса в стране достиг одиннадцати процентов. Причем тенденция спада прослеживается и дальше. А во-вторых, в соответствии с разработанной Институтом экономики АПК Минсельхозпрода концепцией продовольственной безопасности для Республики Беларусь, перед началом жатвы необходимо иметь страховой запас зерна в пределах двух миллионов тонн. На деле же после битвы за урожай мы имеем дефицит в два миллиона тонн. А в качестве успокоительного допинга нам рассказывают об успешной закладке продовольствия на зиму.

Однако, по оценке аналитиков, развалленное сельское хозяйство сможет обеспечить в нынешнем году только 23 килограмма мяса на душу населения, 210–230 кг молока и 340–350 кг зерна. Между тем соответствующие научные нормы следующие: 72, 420, 800.

Анализ показывает, что прогнозы на первую половину будущего года еще более мрачные.

**(Продолжение на стр. 2)**

## ЗДАРЭННІ

### Хлапчукі знайшлі запалкі

**На мінулым тыдні ў вёсцы Яруцічы Слонімскага раёна на падворку Васіля Мікуліча згарэла 4 тоны саломы і сена.**

Як стала вядома, падпал учынілі двое суседскіх хлопчыкаў: 7-гадовы Рома і 6-гадовы Сяргей, якія гулялі з запалкамі.

### Павесяліліся...

**На мінулым тыдні ў Слонімскую раённую бальніцу з нажавым раненнем грудзей прывезлі маладую дзяўчыну.**

Высветлілася, што ў самы разгар веселля, якое праходзіла на вуліцы Яршова, узнікла сварка паміж пацярпелай і бацькам нявесты, 48-гадовым Ш. Дзяўчына нечым так угнявіла гаспадара застолля, што той схапіў нож і ўдарыў ім лепшую сяброўку сваёй дачкі. Узбуджана крымінальная справа.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Не захацела жыць

**У пасёлку Казлоўшчына, што ў Дзятлаўскім раёне, у сваім доме павесілася маладая жанчына.**

Што падштурхнула жанчыну на такі жудасны ўчынак, пакуль невядома. Сіротамі засталіся трое непаўналетніх дзяцей.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## НАВІНЫ

### Новы старшыня савета дырэктароў

**Старшынёй савета дырэктароў слонімскіх гарадскіх прадпрыемстваў абраны Алег Бярдула, дырэктар Слонімскага мясакамбіната.**

– Савет дырэктароў Слоніма – гэта грамадская арганізацыя, – сказаў карэспандэнту "ГС" Алег Раманавіч. – Такім чынам разам мы імкнемся рашаць складаныя праблемы, дапамагаць маладым кіраўнікам прадпрыемстваў і г.д.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Ох ты, белая водка, как ты дорога

**Очередной раз в Беларуси на 25 процентов выросли цены на белую водку.**

Теперь полулитровая "винтовая" бутылка водки "Кристалл-100" стоит 521 тысячу рублей (ранее – 423 тысячи), "Белая Русь" и "Кристалл-люкс" – 542 тысячи рублей (ранее – 439 тысяч).

Следует отметить, что нынешнее подорожание водки стало восьмым в этом году. С января ее стоимость увеличилась уже в 2,8 раза.

**Дмитрий ВЛАСОВ**

### Паміраем часцей

**За верасень работнік Слонімшчыны ў сярэднім зарабіў звыш 19,5 мільёна рублёў.**

Пра гэта паведаміў раённы аддзел статыстыкі. Адзначаецца таксама, што за дзевяць месяцаў сярэднямесячная зарплата склала 13,4 мільёна рублёў.

Статыстыка сцвярджае, што ў 13 гаспадарках раёна знізілася вытворчасць мяса. З пачатку года на перапрацоўку рэалізавана на 631 тону мяса менш, чым летась за адпаведны перыяд. На 18 працэнтаў у гаспадарках зменшыўся і валавы надой малака. Насельніцтва ж раёна прадало дзяржаве 5 452 тоны малака, што складае 24 працэнты ад агульнага аб'ёму закупак малака.

За дзевяць месяцаў у горадзе і раёне нарадзілася 488 дзяцей, а памерлых зарэгістравана 807. У горадзе смяротнасць перавысіла нараджальнасць на 64 чалавекі, а ў сельскай мясцовасці – на 255 чалавек. За той жа перыяд зарэгістравана 370 шлюбаў і 225 пар скасавалі свой саюз. На 100 зарэгістраваных шлюбаў прыпадае 61 скасаванне.

**Міхась ЗАГОРСКІ**

## НАША ІНТЭРВ'Ю



### Іван Бядко: "БНФ ЗАСТАЕЦЦА САМАЙ МАГУТНАЙ АПАЗІЦЫЙНАЙ АРГАНІЗАЦЫЯЙ У БЕЛАРУСІ"

**Нядаўна ў Мінску прайшоў VI з'езд Беларускага народнага фронту "Адраджэнне", на якім адбылася змена кіраўніцтва арганізацыі. Старшынёй БНФ абраны Вінцук Вячорка, які на гэтай пасадзе замяніў Зянона Пазьняка. Што падштурхнула франтаўцаў на такі радыкальны крок? Пра гэта карэспандэнт "ГС" размаўляў са старшынёй Слонімскай Рады БНФ "Адраджэнне" Іванам Бядко.**

***– Іван Сямёнавіч, ці можна пасля прайшоўшага з'езда сказаць, што адбыўся раскол арганізацыі?***

– Фактычна, расколу Фронту не адбылося. Проста з арганізацыі выдзелілася фракцыя на чале з Пазьняком, якая ўтварыла "Кансерватыўна-хрысціянскую партыю". Гэта іх права. На з'ездзе гэтыя людзі (70 чалавек) не прысутнічалі. Яны правялі свой сход... На з'ездзе ж БНФ "Адраджэнне" прысутнічала 243 дэлегаты. З іх 228 аддалі свае галасы на карысць Вінцука Вячоркі, супраць было толькі 11 чалавек. Такім чынам, упершыню за час існавання БНФ адбылася змена кіраўніка. І зроблена гэта было ў адпаведнасці са статутам арганізацыі. На другі дзень прайшоў і з'езд партыі, на якім Вячорка быў выбраны кіраўніком партыі БНФ.

***– Як вы лічыце, чаму дэлегаты адмовілі ў даверы Пазьняку?***

– Зянон Пазьняк больш дзесяці гадоў кіраваў Фронтам і за гэты час зрабіў шмат відавочных памылак. Апошняя з іх – падчас прэзідэнцкіх выбараў у траўні гэтага года, калі ён зняў сваю кандыдатуру і заклікаў франтаўцаў не ўдзельнічаць у выбарах. Выбары трэба было давесці да канца, а пасля высвятляць адносіны. Таксама былі дзіўнымі яго выпады ў бок Міхаіла Чыгіра, які цяпер сядзіць у турме. Сам жа Пазьняк ужо тры гады жыве за мяжой (але я лічу гэта правільным, інакш, каб ён застаўся на Беларусі, першым бы "знік", як "зніклі" Захаранка, Ганчар і іншыя апазіцыйныя палітыкі)... У выніку, імідж арганізацыі быў моцна сапсаваны, і БНФ ужо не меў той падтрымкі народа, якая была раней. Сітуацыю трэба было мяняць.

***– Ці сапраўды франтаўцы ўбачылі альтэрнатыву Пазьняку ў асобе маладзейшага Вячоркі?***

– Мы спадзяёмся, што Вінцук Вячорка здольны сёння захаваць адзінства ў шэрагах Фронту, будзе магчымасць яго з іншымі дэмакратычнымі партыямі і арганізацыямі, якія выступаюць за незалежнасць Беларусі. Менавіта Вячорка здольны абнавіць БНФ, які па-ранейшаму застаецца самай магутнай апазіцыйнай арганізацыяй у Беларусі, якая здольная рэальна супрацьстаяць дыктатарскаму рэжыму.

***– А што можа змяніцца ў дзейнасці Слонімскага БНФ у сувязі з апошнімі падзеямі, ці ўсё застанецца па-ранейшаму?***

– Мы заўсёды імкнуліся гаварыць людзям, што яны мусяць змагацца за свае правы. І "змагацца" не на ўласных кухнях, а на плошчах, пікетах, каб улады бачылі, што не ўсе згодныя з іх палітыкай. А так толькі і чуеш з вуснаў чыноўнікаў, што "народ іх падтрымлівае". Але ці так ёсць на самой справе?

Думаю, што людзі незадаволены і той "эканоміяй", якую ўлады праводзяць па ўказанню Лукашэнкі, адключаючы цяпло ў нашых дамах. І якая гэта эканомія, калі ў кожнай кватэры газавыя пліты працуюць цэлымі днямі? А як купіць людзям медыкаменты за жабрацкую зарплату? Усё гэта хвалюе людзей, але абараняць свае элементарныя правы яны або не ўмеюць, або баяцца...

Сёння вельмі актуальным з'яўляецца пытанне "аб'яднання" Беларусі з Расіяй. Хацелася б засцерагчы людзей, каб яны не адносіліся да гэтага абыякава. Я ўпэўнены, што на сённяшнім этапе нашай гісторыі такое "аб'яднанне" нічога добрага Беларусі не дасць.

**Сяргей ЁРШ**

## НАВІНЫ

### "Сябры-друзья"

**В Слониме прошел белорусско-российский фестиваль "Сябры-друзья".**

Он проводился в рамках российско-белорусского проекта "Учим и учимся культуре мира".

В фестивале принимали участие делегации школьников и преподавателей учебных заведений Москвы, Санкт-Петербурга, города-побратима Слонима – Торжка, городов Беларуси. Участники фестиваля представили авторские проекты и программы, знакомились с местными достопримечательностями, принимали участие в дискуссиях за "круглым столом" по темам: "Мир без насилия", "Жизнь без конфликтов", "Свобода и право", "Дороги без границ", "Культура и мир".

**Ася КУНИЦКАЯ**

### Новая чвэрць з новым дырэктарам

**Другую чвэрць бягучага навучальнага года вучні першай Мастоўскай сярэдняй школы сустрэнуць з новым з дырэктарам.**

Ім прызначана Людміла Дмірыеўна Лукічова, якая раней працавала намеснікам дырэктара пятай школы. Яна змяніла на гэтай пасадзе Івана Іванавіча Уласіка, з якім мясцовае кіраўніцтва не перазаключыла кантракт.

### Будуюць мала і кепска

**Мастоўскі райвыканкам на чарговым пасяджэнні вымушаны быў канстатаваць, што ў гэтым годзе план па ўводу ў эксплуатацыю жылля выкананы толькі на 54%.**

Шэраг падрадных арганізацый працуе дрэнна. Райвыканкам запатрабаваў практычна ад усіх кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў прыняць неадкладныя меры па паскарэнню працы на будаўнічых аб'ектах, але толькі невядома, ці патрабаванні зменяць стан спраў, бо для гэтага неабходны фінансы, якіх у гаспадарках няма.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**



Александр Швайдюк:

# "НАРЯД ПРИБЫВАЕТ НА ОБЪЕКТ В ТЕЧЕНИЕ ТРЕХ МИНУТ"

**На прошлой неделе в республике отмечался профессиональный праздник работников вневедомственной охраны. Эта служба была создана 47 лет назад. О работе Слонимского отдела вневедомственной охраны корреспонденту "ГС" рассказал его начальник, подполковник милиции Александр Швайдюк.**

***— Александр Васильевич, как выглядит ваш отдел сегодня?***

— Это мобильное, достаточно хорошо оснащенное подразделение, которое охраняет объекты народного хозяйства, учреждения, ведомства города, а также личное жилище слонимчан. Наряд милиции в считанные минуты прибывает на охраняемый объект в случае проникновения на него посторонних. Всего у нас работает 340 человек, 64 из них – люди в погонах. Под их охраной находится 265 различных объектов. Денег из бюджета мы не получаем, а полностью живем за счет средств, получаемых за оказанные услуги.

***— Александр Васильевич, предположим, что ваши сотрудники не уберегли какой-либо объект, в результате чего его обворовали. Что тогда?***

— Мы полностью возмещаем потерпевшему причиненный ущерб. Но, к счастью, на протяжении ряда последних лет краж на охраняемых объектах не было. Правда, зарегистрированы проникновения на отдельные объекты. Но, благодаря тому, что наши патрульные отряды после оповещения прибывают на место происшествия за три минуты, преступники были задержаны. В прошлом году, например, нами были предотвращены кражи из магазина "Товары для дома и быта" и бара, что находится возле городского рынка. Кроме этого нашими сотрудниками в этом году раскрыто 9 уголовных и 15 экономических преступлений. Наряды охраны принимали участие в раскрытии еще 65 преступлений. За 10 месяцев 1999 года на мясокомбинате, молокозаводе, винзаводе, комбикормовом заводе и хлебокомбинате нашими сотрудниками задержано 369 человек, совершивших мелкие хищения. Изъято похищенной продукции на сумму более 211 миллионов рублей.

***— Бытует мнение, что во вневедомственной охране служить легче, чем в других подразделениях милиции, это так?***

— На мой взгляд, это мнение ошибочное. Ведь наряду с задачами по охране объектов народного хозяйства, на наших сотрудниках лежат обязанности по охране общественного порядка на улицах, обследовании объектов на предмет их технической укрепленности и противопожарной безопасности. Кроме того, наши милиционеры принимают участие в сопровождении денежных и товарно-материальных ценностей. Не случайно при отборе кандидатов на службу в отдел охраны особое внимание обращаем на их физическое состояние. Предпочтение отдаем лицам, проходившим службу во внутренних войсках.

***— Сегодня вряд ли в Слониме можно найти организацию или учреждение, у которой бы не было проблем. Есть ли они у вас?***

— В настоящее время мы переходим на новую систему охраны объектов "Алеся", которая позволяет оператору пульта управления охраны видеть на экране компьютера не только сам охраняемый объект, но и его отдельные детали: двери, окна и т.д. При выезде на место наряд будет иметь более четкое представление, как проще и безопаснее задержать преступников. Но это оборудование дорого стоит, и не все предприятия могут себе позволить его купить.

***— Не хотите ли вы сказать, что охрана объектов — дело убыточное?***

— Нет. Просто многие предприятия и учреждения неплатежеспособны. Некоторым из них зачастую едва хватает средств на выдачу зарплаты своим работникам. А рассчитываться с нами за оказанные услуги нечем. Только за сентябрь месяц сумма дебиторской задолженности составила 2,5 миллиардов рублей. В связи с этим мы не можем своевременно приобретать транспорт, ГСМ, вооружение, обмундирование и др. Существует проблема и с обучением личного состава, поскольку помещения для проведения служебной подготовки нет. Недавно нам передали здание фабрики "Текстильщик", которое из-за недостатка средств мы не можем переоборудовать и отремонтировать.

**Беседовал Валентин ЧУРИЛО**



*Милиционер-водитель старший сержант Дмитрий Песляк и кинолог старший сержант Леонид Климовцов*

## НАВІНЫ

### Вось дык агурок!

**Жыхарка Дзятлава Таццяна Кудзінава вырасціла на сваёй градцы агурок вагою 2 кілаграмы 800 грамаў.**

Маладая жанчына вазіла яго ў Мінск на выставу, якую арганізавала беларускае таварыства аховы прыроды. Дзятлаўскі экспанат аказаўся самым вялікім. Яго гаспадыня атрымала ўзнагароду: дыплом і грашовую прэмію.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

### Патаемна ад народа

**Прыкладна так праходзіць сацыялагічнае апытанне працаўнікоў АТ "Мастоўдрэў".**

Невядомыя маладыя асобы наведваюць цэхі прадпрыемстваў і, не называючы свайго прозвішча, пачынаюць распытваць рабочых аб умовах працы, ці дастаткова ім заробгнай платы ды іншае. Рабочыя з асцярогай ставяцца да роспытаў невядомых асобаў, а некаторыя ўвогуле на іх запыты адказваюць непрыстойна.

**Антон МАКЕЙ**

# ПРОДОВОЛЬСТВИЯ БОЛЬШЕ НА БУМАГЕ

**(Продолжение. Начало на стр. 1)**

Трудно ожидать, например, роста производства сельскохозяйственной продукции, прежде всего в животноводстве, если за первые восемь месяцев этого года реальное поголовье крупного рогатого скота уменьшилось более чем на 10 процентов, свиней – на 4,8, птицы – на 6–7 процентов, овец – почти на треть. По причине бескормицы и плохих условий содержания привесы крупного рогатого скота уменьшились на 16–17 процентов, свиней – на 9–10, на девять процентов упали надои молока. Похоже, в ближайшей перспективе нет оснований ожидать ни роста продуктивности скота и птицы, ни роста объемов производства животноводческой продукции. Ведь на начало стойлового периода реально заготовлено только 78 процентов всех видов кормов к уровню 1998 года.

Естественно, сокращение продукции животноводства отрицательно сказалось на производстве конечной продукции предприятиями пищевой промышленности. Как свидетельствуют статистические данные, с января по август текущего года по сравнению с тем же периодом прошлого года сократилось производство говядины, свинины и мяса птицы. И еще одно изменение – с сентября прошлого года по октябрь нынешнего производство вареной колбасы упало на 29 процентов. А ведь именно эта колбаса по причине относительно невысокой цены оставалась продуктом для малоимущих.

Нет надежды на сдвиги к лучшему и в растениеводстве. Восстановить разрушенную материально-техническую базу к весне будущего года не представляется возможным. Сегодня долги колхозов и совхозов, несмотря на массированную финансовую помощь государства, по оценкам аналитиков, достигнут к концу года порядка сорока триллионов рублей.

Увы, нарастает напряжение и с хлебом. За оставшиеся до конца года два месяца, зиму и весну нужно закупить свыше двух миллионов тонн продовольственного и фуражного зерна. Валюты на эти цели вряд ли хватит. Правда, "выход", вроде, найден – доведены задания промышленным предприятиям, которые еще находятся на плаву, по выделению ими валюты для покупок импортного зерна. Выходит, латаем дыры в одном месте и тут же увеличиваем их в другом.

**Владимир КУЛАЖЕНКО, профессор**

## ПРИКАЗ СЛОНИМСКОГО ГОРОДСКОГО ВОЕННОГО КОМИССАРИАТА №10

3 ноября 1999 г. Слоним. О призыве граждан на срочную службу

**1.** Во исполнение Указа Президента Республики Беларусь №604 от 14 октября 1999 года и Закона Республики Беларусь "О всеобщей воинской обязанности и военной службе" с 1 ноября 1999 года по 31 января 2000 года призвать на срочную военную службу в Вооруженные Силы и другие воинские формирования Республики Беларусь граждан Республики Беларусь мужского пола, которым ко дню призыва исполнилось 18 лет и не имеющих права на отсрочку, а также граждан старшего призывного возраста, утративших право на отсрочку.

**2.** Все граждане, подлежащие призыву, обязаны прибыть на призывной участок по адресу: Слоним, ул. Пушкина, 52 точно в назначенные дни и часы, указанные в повестке. Граждане, не получившие повесток о явке для призыва на срочную военную службу, обязаны прибыть в городской военный комиссариат в течение месяца с момента объявления Указа Президента Республики Беларусь.

**3.** Гражданам, подлежащим призыву, провести медицинское освидетельствование врачебной комиссией при объединенном городском военном комиссариате согласно графику.

**4.** Все лица призывного возраста, подлежащие призыву на срочную военную службу, временно проживающие на территории Слонимского района и города, обязаны незамедлительно возвратиться к месту постоянного жительства и явиться в военный комиссариат, в котором они состоят на воинском учете, для решения вопроса о призыве.

**5.** Граждане своевременно не явившиеся для призыва на срочную военную службу или уклоняющиеся от явки на призывной участок, несут ответственность согласно действующему законодательству.

**6.** На основании ст. 14 Закона Республики Беларусь "О всеобщей воинской обязанности и военной службе" руководители предприятий, учреждений, организаций, независимо от форм хозяйствования и учебных заведений, обязаны освободить призывников от работы (учебы) на время, необходимое для прохождения призыва, отозвать призывников из командировок и обеспечить своевременную явку их на призывной участок в дни и часы, указанные Слонимским горвоенкоматом.

**Слонимский городской военный комиссар полковник Александр Купка**

# СЕРТИФИКАТ НА ФОРМУ

**Белорусскую милицейскую форму должны носить только те сотрудники милиции, которые прошли специальное обучение, считает заместитель начальника Академии МВД Беларуси, член комиссии по борьбе с преступностью и наркоманией при Совете безопасности, член консультативно-правового совета при президенте, известный в стране юрист Иван Басецкий.**

"К великому сожалению, мы на улицу выпускаем очень много неподготовленных людей, до трех тысяч одетых в форму сотрудников вообще не имеют никакой подготовки, – отметил Иван Басецкий в разговоре с корреспондентом БелаПАН. – Именно поэтому очень часто люди видят в сотруднике милиции невнимательного, бескультурного, плохо образованного, плохо подготовленного, нравственно нечистоплотного человека, к сожалению, такие факты имеют место".

Для того, чтобы слово "милиционер" произносилось также уважительно как "полицейский", а сам вид сотрудника милиции вызывал "иллюзию защищенности", по утверждению Ивана Басецкого, нужно сделать очень многое. Уже сейчас рядовые сотрудники милиции направляются в учебные центры, где будут получать необходимые знания. В обязательном порядке будут обучаться и солдаты внутренних войск, которые несут службу на улицах города. Ставится задача увеличения срока обучения рядового состава до года, после чего сотруднику милиции будет выдаваться сертификат. После своеобразного испытательного срока будет решаться вопрос – носить ему форму милиционера или же подыскивать другую работу.

"Жители нашей республики относятся к категории наиболее законопослушных, уважающих власть и законы. Но, к великому сожалению, очень часто чиновники злоупотребляют этим", – отметил в заключение Иван Басецкий.

**БелаПАН**

Газета Слонімская

Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.

Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі:
231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
.............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 9 лістапада 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 8000 экз.
Заказ №2914
© «Газета Слонімская»
Спасылка на «ГС» абавязковая
Ⓚ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

# ВЯРТАННЕ САПЕГАЎ

**Нядаўна ў дзярэчынскім касцёле (Зэльвенскі раён) адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі Яўстаху Каятану Сапегу. Яна выраблена па ініцыятыве і за сродкі гродзенскіх прадпрымальнікаў Віктара Каладзкага і Валянціна Дубатоўкі. Гэта падзея была прымеркавана да візіту на Бацькаўшчыну 83-гадовага князя Яўстаха Севярына Сапегі, які цяпер жыве ў Кеніі (Афрыка). Ён прыехаў з пляменнікам Пятром і доктарам Польскай Акадэміі навук пані Марыяй Каламайскай. З гэтай нагоды ў дзярэчынскім касцёле біскуп Аляксандр Кашкевіч адслужыў жалобную імшу, а потым звярнуўся да князя з прывітальнай прамовай. Ад імя дзярэчынцаў, за расійскага цара Мікалая І, які адабраў княскі маёнтак, а таксама за бальшавікоў, якія арыштавалі бацьку князя ў 1939 годзе, у тытуляванага госця прасіў прабачэння старшыня калгаса спадар Рычард Зыбко.**



*Князь Яўстах Севярын Сапега адчуваў сябе ў Дзярэчыне шчаслівым*

Нагадаю, што нават у Беларускай энцыклапедыі ў артыкуле "Сапегі" паведамляецца, што напрыканцы XVII стагоддзя Сапегі спрабавалі стварыць на беларускай зямлі самастойную дзяржаву, а ў 1918 годзе мелі сувязі з "беларускім нацыяналістычным рухам". Там жа пералічваюцца найбольш вядомыя прадстаўнікі славутага княскага рода, пачынаючы ад слыннага Льва Сапегі і заканчваючы Казімірам Янам Сапегам, які стаў вялікалітоўскім гетманам у 1705 годзе.

І ўсё... Як быццам усе астатнія Сапегі і не былі вартыя памяці нашчадкаў. Насамрэч усё выглядала далёка не так, але сапегаўская чыннасць чамусьці не знаходзіла належнага адлюстравання ў энцыклапедычнай літаратуры. Так у найноўшым аднатомніку "Беларусь" (1995) няма і згадкі пра Францішка Сапегу, які быў паплечнікам Тадэвуша Касцюшкі і камандзірам цэлай паўстанцкай дывізіі. Не прыгадваецца там і ягоны сын Яўстах Каятан Сапега, які дзеля патрэбаў наступнага вызваленчага паўстання ў 1830 годзе прадаў родавы палац у Ружанах. Пасля паражэння і вымушанай эміграцыі князь адхіліў прапанову расійскага цара Мікалая І напісаць на яго імя пакаяльны ліст. У выніку ўсе маёнткі былі канфіскаваныя і разрабаваныя. Толькі з аднаго Дзярэчына (тады Слонімскі павет), дзе знаходзілася галоўная рэзідэнцыя Сапегаў, было вывезена ў Расію больш за 200 скрыняў з золатам і серабром, карцінамі і кнігамі, старажытным вайсковым рыштункам ды іншымі родавымі рэліквіямі.

Князь Яўстах Каятан Сапега памёр у Парыжы ў 1860 годзе, за тры гады да новага паўстання на ягонай Радзіме. І калі пра князя-паўстанца забыліся навукоўцы ў сталіцы, то памяць пра яго захавалі ў самым мястэчку Дзярэчын (Зэльвенскі раён).

Прамаўляючы ўдзячнае слова ў адказ, князь Яўстах Севярын Сапега расчуліўся да слёз, а потым настальгічна ўдыхаў водар вялікага пшанічнага караваю, які паднеслі яму дзярэчынцы на бел-чырвона-белым ручніку.

Нарадзіўся князь у 1916 годзе ў маёнтку Спуша пад Скідалем і 23 гады пражыў у Заходняй Беларусі. Потым быў нямецкі палон, вызваленне, армія генерала Андэрса, служба звычайным паляўнічым у Афрыцы, праца над мемуарамі, якія неўзабаве павінны пабачыць свет у Варшаве.

Нягледзячы на выдатную польскую мову, Яўстах Севярын Сапега не лічыць сябе палякам. У зацішку дзярэчынскай плябаніі я меў магчымасць задаць князю некалькі пытанняў.

***— Сёлетні кастрычнік на Беларусі выдаўся з заморазкамі. Ці ўтульна Вы сябе адчуваеце без звыклага афрыканскага сонца?***

— Я на гэтай зямлі нарадзіўся і больш за 20 гадоў пражыў, таму мне гэты клімат добра вядомы. Я адчуваю сябе добра, мне тут не холадна, хоць і жыву я на экватары.

***— Беларусь 83 гады таму сталася для Вас Радзімай. Аднак вось ужо больш за паўвека Вы жывяце ў Кеніі. Чым для Вас Беларусь з'яўляецца сёння?***

— Як і для іншых Сапегаў, тут мая Радзіма, якой ужо 500 гадоў. Менавіта тут, а не дзесьці ў іншым месцы. Мы паходзім адсюль. Мае продкі мусілі быць на эміграцыі – у Англіі, у Галіцы – і вярнуліся сюды. Для мяне гэты Край – гэта мой Край, нягледзячы на тое, што я потым апынуўся ў Афрыцы, а тут пазаўчора была Расія, учора – Польша, а сёння ёсць Беларусь. Гэта мой Край, мая Айчына, тут мае карані.

***— Скажыце, князь, калі б на Беларусі быў прыняты закон аб вяртанні маёмасці былым уладальнікам, як гэта зроблена ў Прыбалтыцы, ці прэтэндавалі б Вы на колішнія ўладанні Сапегаў?***

— Аднойчы мы гэты Край ужо страцілі – пасля вядомага паўстання ў 1831 годзе. На сто гадоў забралі, але ў 1933 годзе вярнулі. І, вядома, калі б цяпер я мог вярнуць сваю зямлю, то зрабіў бы гэта з прыемнасцю. Ружаны існуюць, Спуша існуе, Дзярэчын існуе... Вядома, каб вярнулі... Але хадзіць і прасіць, альбо купляць, кажучы, што мне на гэта грошы – зусім іншая рэч...

***— Падчас сваіх прыездаў з Афрыкі Вы спыняецеся ў Варшаве. Калі б у Вас была магчымасць, дзе б Вы пабудавалі дом на Беларусі?***

— Я б хацеў вярнуцца ў Спушу, дзе яшчэ стаіць наш лес, пажыць у сваім радзімым кутку. Ведаеце, быў вельмі шчымлівы момант, калі я ў Спушы сустрэў старэнькую бабульку, якая памятала мяне маладым і пазнала праз 65 гадоў! Але будаваць дом... Мабыць, я ўжо занадта стары для гэтай справы. Я ж у Афрыку выязджаў не назаўсёды. Думаў, папрацую там і вярнуся сюды, дзе з'явілася на свет пятнаццаць пакаленняў Сапегаў. Не атрымалася. Ці захочуць вярнуцца ў Беларусь мае дочкі? Пра гэта трэба спытаць у іх. Яны нарадзіліся ў Афрыцы, былі замужам у Швецыі і Польшчы, але пасля смерці мужоў прыехалі дадому ў Найробі. На жаль у іх няма такога сантыменту да Беларусі, як у бацькі.

***— Сёння ў дзярэчынскім касцёле Вы прысутнічалі пры асвячэнні мемарыяльнага знака Вашаму прадзеду Яўстаху Каятану Сапегу, удзельніку нацыянальна-вызваленчага паўстання 1830 года. Мой сябра Валянцін Дубатоўка спрабаваў знайсці яго магілу ў Парыжы. На якіх могілках ён пахаваны?***

— На старых могілках на Манмартры. Трыццаць гадоў таму да мяне звярнуўся загадчык тых могілак. Ішла размова пра апеку над магілаю майго прадзеда. Я аднавіў пахавальню і паставіў прыгожы помнік. Тады ж я выкупіў усю пахавальню ў парыжскіх гарадскіх уладаў. Потым побач з прадзедам пахаваў майго брата. І, мабыць, і самога там пакладуць. Гэта яшчэ канчаткова не вырашана. Але я, пакуль жывы, раблю захады, каб дастаць добрае месца ў якім-небудзь сапегаўскім касцёле на Беларусі. Родавая пахавальня – святое для нашага роду месца, я і цяпер аб ім пякуся. Ведаю, што гэта нерэальна, але мне хацелася б перанесці яе на Беларусь.

***— Якімі ўражаннямі, князь, Вы падзеліцеся са сваімі дочкамі, вярнуўшыся ў Найробі?***

— Калі мы сёння а дванаццатай гадзіне палуднавалі ў дзярэчынскага ксяндза брата Юзэфа, на касцёльнай званіцы зазваніў звон. Як мне растлумачылі, гэта яшчэ сапегаўскі звон, на ім выбіта дата – 1717 год. Ён мяне таксама пазнаў! Мне здаецца, яго голас я цяпер буду чуць і ў Афрыцы. Усё ў гэтым Краі за мінулыя паўстагоддзя моцна змянілася. Адзінае, што засталося без зменаў – гэта зямля і лес. Разумееце, каля Ружанаў яшчэ расце наш лес! Я ў Афрыцы 20 гадоў быў прафесійным паляўнічым. І мне прыемна было б папаляваць у сваім лесе. Але, кажуць, трэба пісаць ліст Лукашэнку, каб дазволіў...

Мая старэнькая сястра жыве ў Лондане. І я хачу завезці ёй хоць кавалачак цагліны ад нашага старога маёнтка ў Спушы. І – не знайшоў. Нічога не засталося. Людзі таксама змяніліся. Раней мы не ведалі, што такое "калхозы", іх не было. Я хацеў бы бачыць вольных людзей, якія працуюць на сваёй зямлі, а не працаўнікоў калгасаў.

***— Шаноўны князь, на гербе Сапегаў спрадвеку была Пагоня. У афармленні кнігі "Дом Сапегаў", якую Вы падрыхтавалі і выдалі тры гады таму ў Варшаве, выкарыстаны ўзоры слуцкіх паясоў, на яе старонках нячаста згадваецца Польшча... Ці не азначае гэта, што этнічна Вы адчуваеце сябе ўсё ж беларусам?***

— На гэтае пытанне мне складана адказаць... Усе мы, Сапегі, і я ў тым ліку, былі грамадзянамі Вялікага Княства Літоўскага, што ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай. І я адчуваю сябе грамадзянінам Рэчы Паспалітай, але, бясспрэчна, паходжаннем з Вялікага Княства Літоўскага. Цяпер тут Літва, Беларусь, Украіна... Мы ж былі грамадзянамі Вялікага Княства Літоўскага. І потым, заўважце, мы, Сапегі, 400 гадоў змагаліся за незалежнасць свайго Краю, мы не хацелі быць жыхарамі Польскага Каралеўства.

Калі я на развітанне папрасіў князя прыгадаць з юнацтва некалькі словаў па-беларуску, ён вымавіў: "Жыве Беларусь!".

**Міхась СКОБЛА**

**ПОЧТА**

## НЕ МОГУ МОЛЧАТЬ

*Здравствуйте, редакция!*

*Сразу после похорон отца я пришла в редакцию вашей газеты, чтобы описать всю горечь и обиду, которую пришлось пережить от встречи с нашими служителями Церкви. Сотрудники редакции мне посоветовали успокоиться, подумать, не торопиться с выводами. Прошло время. Я уж было склонилась к тому, чтобы оставить все как было. Но, регулярно читая вашу газету и видя сколько внимания она уделяет памяти моего отца, я поняла, что не имею права больше молчать об этом безобразии.*

...Итак. 21 августа 1999 года у меня умер отец. Я пошла в Церковь, чтобы заказать отпевание усопшего, как это принято у православных. Там я заплатила полтора миллиона рублей, и мне сказали, чтобы 22 августа к 14.00 к Церкви была подана машина, чтобы забрать и привезти батюшку на место.

Когда я приехала, батюшка и его певчие сидели во дворе Церкви и над чем-то громко смеялись. Я всегда считала, что не только в Божьем Храме, но и возле него следует говорить вполголоса, не то что смеяться. Они (слуги Божьи) так были заняты собой, что не сразу обратили на меня внимание. Всю дорогу к дому они рассказывали друг другу различные казусные случаи, которые когда-либо происходили во время различных богослужений, после чего смеялись. Меня, как и водителя, поразило такое неуважение к чужому горю. Даже выйдя из машины, идя по двору, они продолжали громко говорить. А во дворе уже собрались люди на похороны...

Но больше всего меня, да и не только меня одну, шокировало поведение певчих. Во время отпевания одна из них разглядывала все вокруг, только что под гроб не заглянула. Другая все время садилась, как будто это не мы, а она устала от бессонных ночей и беготни, связанной с устройством похорон. Третья демонстрировала подружкам зонтик, недавно приобретенный ею. Они были заняты своими делами, а не тем, ради чего их пригласили и заплатили. Певчие путались в словах и очередности молитв. Это заметили все присутствующие.

Уже будучи на кладбище, певчие потребовали с меня еще по пятьсот тысяч рублей каждой за проделанную халтуру, потому что иначе это назвать нельзя. Когда же я сказала, что никаких денег больше не дам, они начали так кричать и возмущаться, как будто находились не на кладбище, а на колхозном рынке. Одна из них вообще заявила, что "не обязана за просто так отпевать кого-то". Такое поведение постыдно для любого человека, а для верующего...

Когда я решила написать обо всем в газету, то сходила еще раз в Церковь, чтобы узнать имя священника, который был у нас. Но, как ни странно, никто не смог мне его назвать, а ведь заказ записывали в журнал. Тем не менее, я уверена, что эти люди узнают себя в моем письме. Может, они задумаются о своем поведении, отношении к людям.

Я считаю, что Бог – это Добро, оно едино. И не важно кто его проповедует: Иисус, Магомет... Мне непонятно, как можно оценивать добро. Почему у католиков нет расценок на оплату различных ритуалов. Каждый дает столько, сколько может. А о том, чтобы оплатить отпевание не может быть и речи. Ксендз говорит, что нельзя отправлять покойника в последний путь за деньги. Конечно, мне возразят, что в настоящее время у нас в городе строится Собор и православная Церковь нуждается в средствах. А что они строили пять, десять, пятнадцать лет назад?

Мои бабушка и дед (по линии отца) были очень набожными людьми. Бабушка пела в церковном хоре. И что же? Когда она умерла, пришлось платить по полной программе. Хотя эти певчие не раз бывали у нас в гостях. Поймите меня правильно, дело не в деньгах, а в циничности и продажности.

Мне врезался в память один случай. Давно, когда я была еще подростком, у бабушки на Пасху собралось много гостей, среди которых были и вышеупомянутые певчие. До чего же было противно смотреть, как они, разогретые спиртным, стали спорить между собой о том, что одной досталось больше яиц, другой больше пирогов... Среди них была та женщина, которая на похоронах отца хвасталась зонтиком.

Я не призываю людей к атеизму. Просто сейчас, когда все повально кинулись к Богу, давайте не будем ни в горе, ни в радости давать возможность таким "служителям" Церкви пятнать имя Божье своим поведением.

**Джамиля КРИЦУК, дочь Георгия Зазули**

**ПАМЯЦЬ**

## Камісія па творчай спадчыне

**У Мінску адбылося пасяджэнне сакратарыята Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

На ім было разгледжана пытанне аб камісіі па творчай спадчыне слонімскага паэта Анатоля Іверса (Івана Дарафеевіча Міско). Сакратарыят зацвердзіў камісію па літаратурнай спадчыне Антоля Іверса ў складзе: Алег Лойка (старшыня камісіі), Канстанцін Міско (сын паэта, сакратар камісіі), Іван Чыгрын, Данута Бічэль-Загнетава, Янка Саламевіч, Уладзімір Ягоўдзік, Сяргей Чыгрын, Іван Сяргейчык, Аляксей Якімовіч.

